# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 49 (1803) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 9 СНЕЖНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.



МОЛАДА, СУЧАСНА, ПА-БЕЛАРУСКУ

## ВЫРАТУЙ ЗНЯМЕЛУЮ АЙЧЫНУ

Стаўлю на плэер касету „Басовішча—90“ і адчуваю — вы ўжо ведаеце яе песні. І не проста ведаеце, а яны вам моцна падабаюцца — хворую спявачку не хацела гарадоцка-беластоцкая публіка адпускаць са сцэны. Праўда, знайшоўся джэнтльмен, які падарыў ёй шыкоўную заакіянскую куртку. І ёй было цёпла. Надоўга. Больш ад цеплыні вашага прыёма, чым ад курткі, хоць і тая грэла нябла-га.

Дык дайце ж захаваем гэтую цеплыню і пазнаёмімся з чалавекам асабіста.

Гэта Кася Камоцкая.

Ану-ану, прыгадваеце? Не, гэта не цёзка па прозвішчы. Гэта жонка Алеся Камоцкага.

Але на сцэне — не жонка вядомага барда, а пранікнёная, лірычная прадстаўніца беларускай бардаўскай песні — Кася Камоцкая.

І хоць „старажылы памятаюць“ шыкоўны бардаўскі дуэт „Кася і Алесь“, абодва ўжо выйшлі ў творчасці з ценю адзін аднаго. І Кася Камоцкая — гэта ўжо асоба, якая звярнула на сябе ўвагу беларускай маладзёжнай музычнай прэсы. У музычным дадатку „Нотны аркуш“ да газеты „Чырвоная змена“ журналістка Таццяна Ждановіч пісала 9 снежня 1989 года: „Я зразумела ейную мэту: данесці да сэрцаў Паэзію, у якой жыве сама — у краіне, дзе няма грамадзянства і зусім не паводле пашпарту можна пазнаць, хто ты“.

Гэтая Касіна краіна даволі разнастайная, даволі аб'ёмная, у ёй знаходзіцца месца і масціту класіку, і прадстаўніку маладой плыні. Часам Кася дорыць адкрыцці, якіх ніколі не адшукаў бы сам.

Скажам, у мяне склалася аб творчасці Адама Глобуса ўражанне як аб паэце формы, як аб голым тэхнары. І раптам чую шчырую, глыбокую Касіну песню „След“:

Узыдзі на гару, абярніся
ваўком
І ляці праз чатыры гады, —
Сваю маці забудзеш і родны
свой дом,
Не сустрэнеш ніколі бяды...

Аказваецца, гэта таксама Адам Глобус. І ў гэтым лёгка пераканацца, разгарнуўшы зборнік суполкі „Тутэйшыя“ (Мн. „Мастацкая літаратура“, 1989) на 221-й старонцы.

Колькі ж паэтычнага чуцця трэба мець, каб у паэта з неўласцівай ёй манерай знайсці найбольш адпаведны сабе верш. Ды не адзін. Бо памятаеце ж „Спробу малітвы“:

Божа, забяры маё жыццё,
Выратуй знямелую Айчыну,
Выратуй ахвяры
і злачынцаў...
Божа, забяры маё жыццё.

І гэтая песня напісана на вершы таго ж Адама Глобуса. А яшчэ Касю — тут ужо натуральна прываблівалоць вершы Янкі Купалы, Алеся Гаруна, Таццяны Сапач, Алеся Разанава. А калі хочаце больш сюрпрызаў, дык скажу, што пішуць для яе і беларускія рокеры. Скажам, Лявон Вольскі і Алег Дземідовіч. Менавіта „мрайчукам“ належыць, напрыклад, тэкст наступнай песні:

Мы ходзім па забытай зямлі,
Малюем непатрэбныя карціны.
І не чакаем болей адліг.
Мы ходзім па забытай зямлі.

Мы назвалі Касю Камоцкую лірыкам. А ці будзе дакладным гэтае азначэнне? Ёсць сумненні. Бо ёсць у Касі і вострыя сацыяльныя творы, і моцны запал патрыятызму.

Але што важна: усё гэта не патыхае залішняй публіцыстычнасцю, лозунгавасцю. Кася Камоцкая патрапіць стварыць на сцэне глыбокі да сардэчнай шчымлівасці вобраз, які апаноўвае слухачом не толькі праз умела падабраную паэзію, праз яе тонкае адчуванне, але і праз дакладную перадачу ўнутранага настрою (свайго? паэтычнага? жыццёвага?) сродкамі музыкі. Каб пераканаць чытача „Нівы“ ў гэтым, магу толькі параіць

(Працяг на стар. 4)

## УШАНАВАННЕ Ф. СКАРЫНЫ Ў ВІЛЬНІ

17 лістапада ў Вільні прайшло ўрачыстае святкаванне 500-годдзя нараджэння Францішка Скарыны, наладжанае Таварыствам беларускай культуры супольна з Літоўскім фондам культуры (у рамках якога таварыства дзейнічае).

Святкаванне пачалося імшою ў памяць вялікага беларускага асветніка і першадрукара, якую ў Кафедральным саборы на пляцы Гедыміна адслужылі пабеларуску біскуп Тадэвуш Кандрусевіч і айцец Уладзіслаў Чарняўскі. Пасля імшы ўсе сабраныя рушылі ад сабора на вуліцу Дзіджойі 19 (што на віленскім Старым Месце), дзе адбылося адкрыццё мемарыяльнай шыльды з выявою першадрукара і тэкстам на літоўскай і беларускай мовах, інфармуючым, што ў гэтым месцы ў 1522—25 г.г. пражываў Францішак Скарына і выдаў першыя друкаваныя кнігі на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага (у Вільні Скарына надрукаваў „Малую падарожную кніжыцу“ (каля 1522 г.) і „Апостала“ (1525 г.). А пятнаццатай гадзіне ў палацы мастакоў (у даўнейшыя часы — палац генерал-губернатара Мураўёва) на вуліцы Сімана Даўканта 3/8 прайшла ўрачыстая вечарына, прысвечаная беларускаму першадрукару, з выдатным канцэртам старой беларускай музыкі. Святкаванні закончыліся ўрачыстым банкетам у рэстаране „Паланга“.

У святкаванні прыняло ўдзел шырокае прадстаўніцтва беларускай грамадскасці Літвы (Таварыства беларускай культуры, суполка „Сябрына“), Беларусі (прадстаўнікі БНФ, Таварыства беларускай мовы, „Талакі“, гродзенскай „Паходні“ і інш.), былі прадстаўнікі беларускіх асяродкаў у Латвіі і Эстоніі, а таксама літоўцы — прадстаўнікі Літоўскага фонду культуры. З Беласточчыны ў святкаванні ўдзельнічалі Антон Мірановіч (БДА), Ян Максімюк („Ніва“) і Аляксандр Максімюк. Усім беларускім суродзічам у Літве, а асабліва сп. Людміле Кардзіс і сп. Хведару Нюньцы, хацелася б шчыра падзякаваць за запрошэны і сардэчныя турботы пра нас пад час нашае пабыўкі ў іх.

Ян Максімюк

 

## НА мяжы

— 16 —

Ужо некалькі разоў пісаў я аб страшэнных эфектах русіфікацыі Беларусі. Мабыць, ніводзін народ у СССР не стаўся настолькі бяствварым, як беларусы. Мабыць, усе яны не заўважаюць, у якой страшэннай ступені прыпадобніліся яны да рускіх у жэстах, позірках, рэакцыях, інтанацыі, ну, і, зразумела, у мове. Відаць, па-другому яно і быць не магло. Уся ж прапаганда, радыё, а перш за ўсё тэлебачанне, дзякуючы якому не толькі чуем, але і бачым, уплывалі на злачынны працэс абестваравання беларусаў. Я пражыў не кароткае жыццё, і, зразумела, ведаю самыя характэрныя беларускія тыпы. Тыя людзі, якія тысячамі ходзяць па вуліцах Мінска, Віцебска і Магілёва, не нагадваюць традыцыйных беларускіх тыпаў, затое дасканала падыходзяць да рускіх, якія бегаюць па шматлікіх гарадах Расіі. Сказанае датычыць і паходкі і манеры насіць галаву або выпяліваць грудзі. Зразумела, што сказанае не датычыць усіх. Аднак, на жаль, датычыць большасці. Ці магло быць па-другому? Не магло. Таму, што ўся таталітарная сістэма імкнулася да адной мэты, якая нарэшце была дасягнута.

У адной з п'ес Чэхава выступае гераіня, якая на працягу амаль што ўсёй п'есы маніякальна паўтарае: „В Москву! В Москву! В Москву! В Москву!" Для гэтай гераіні перспектыва жыцця ў Маскве атаясамліваецца са шчасцем, аптымізмам, альтруізмам, вырашэннем усіх жыццёвых праблем, з магчымасцю ператварыць немагчымае ў магчымае, сумнае ў радаснае, няшчаснае ў шчаслівае. Нешта падобнае сталася з амаль усім беларускім мяшчанствам, для якога Масква і Расія сталіся аб'ектам запаветных мараў і надзей. Ці ж такія людзі, гледзячы рускія фільмы, аглядаючы рускае тэлебачанне, слухаючы рускае радыё, чытаючы рускую літаратуру і прэсу, не стараліся ва ўсім прыпадобніцца да рускіх? Ці ж маглі яны адкінуць салодкую мару аб духоўным яднанні з Расіяй і Масквой? Ці ж не жадалі яны пазбыцца ўсяго, што іх звязвала з такой правінцыяй, як Беларусь? Ці ж не хацелі яны пазбыцца не толькі беларускай мовы, але і беларускага акцэнту і беларускай інтанацыі, а перш за ўсё адкінуцца як найдалей ад беларускай нацыянальнай свядомасці? Ведаю асабіста беларусаў, якія, гаворачы па-руску, да такой ступені чыкаюць, да такой ступені на ваенны лад адрубваюць словы, што, слухаючы іх, мне робіцца страшна. А яны, навуковыя супрацоўнікі гуманітарных навук, задаволена і горда паглядаюць вокал, ведаючы, што іх „русская речь" выклікае такое ўражанне.

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Нярэдка, асабліва ў ніжэйшых слаях, гэтае наследаванне расейцаў выяўляецца ў грубасці, катэгарычнасці, хамстве, ад якіх робіцца чалавеку сорамна, што разам з імі належыць да той самай нацыі. Быў я сто разоў у БССР, некаторыя з пабываў прадаўжаліся шэсць і дзевяць месяцаў і дзякуючы гэтаму я нагледзеўся і наслухаўся столькі, што можна было б апавядаць доўгія гадзіны. Абмяжуюся толькі некалькімі сітуацыямі, звязанымі з маім апошнім прабываннем у Беларусі.

Першая сітуацыя. Едзем у Мінск цягніком Гродна—Гомель. Вагоны з ляжачымі месцамі, але сценаў і дзвярэй у купэ няма. Ляжыш, а твае ногі выстаюць на калідор. Я захварэў. Калоціць мяне гарачка. Трасуся ад холаду. Бяру два пледы, прыкрываюся. У пэўны момант падыходзіць да мяне правадніца, зрывае з мяне пледы. Адзін забірае, другі пакідае на брудлай падлозе, не гаворачы пры гэтым ніводнага слова. Глыбокай ноччу на нейкай станцыі сядае ў вагон чалавек і ціхім голасам пытае ў правадніцы:

— Скажите, где здесь второе место?

А тая рэзкім злосным голасам:

— Ищите, мне за это не платят!

— Но ведь вы выключили свет, ничего не видно, не найду.

Кандуктарша паўашалелым голасам:

— Я уже сказала и повторять не буду. Мне за это не платят! Если будете шуметь в дальнейшем я с вами поразговариваю по-другому!

І бядняга пайшоў па калідоры, шукаючы ў цемры сваё другое месца.

Другая сітуацыя. У Мінску на вуліцы на мізэрным століку прадае жанчына вінаград. За яе плячыма стаяць скрынкі з фруктамі. Вінаград ад цвілі зусім белы. Падыходзіць чалавек і кажа:

— Этот виноград не должен стоить больше пятидесяти копеек.

А перадавая савецкая жанчына адказвае:

— Нравится — бери, а не нравится — уматывай, — і праз секунду дабаўляе голасна: — Уёбывай.

Я гляджу на ўсё гэта з заціхаўленнем. Прадаўшчыца звяртае свой злосны твар у мой бок і кідае:

— А ты чего смотриш? Я и тебе дам сдачи!

А я ёй на гэта:

— Мне здача не належыцца, бо я ў вас нічога не купляў.

— А я тебе и без купли дам сдачи!

Ну і што? А тое, што і той чалавек і я павярнуліся на пяце і пайшлі, як бы і нічога не сталася. Прымірыліся з хамствам. Яно аказалася мацнейшым чым мы.

Варта дадаць, што хамская прадаўшчыца была пажылой сівой жанчынай і гэта выклікала маю дадатковую засмучанасць.

Не трэба ідэалізаваць свой ўласны народ і рысы яго характару ставіць вышэй, чым рысы характару іншых народаў. З такога падыходу родзяцца ўсе нацыяналізмы і шавінізмы.

І таму за тыя прыклады, якія я прывёў, а якія сведчаць выразна аб уплыве на беларусаў рускай звычаёвасці, перш за ўсё адказваем мы, беларусы. Народ, які не мае ў сабе здольнасці абараніць свой уласны нацыянальны твар, сваю існасць, сваю тоеснасць, не заслугоўвае на існаванне. Памятаймо аб гэтым і баранем тое, што яшчэ абараніць можам.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Прэм'ер-міністр Тадэуш Мазавецкі** палічыў вынікі прэзідэнцкіх выбараў як доказ недаверу для сваёй палітыкі (атрымаў ён усяго 18,08 прац. галасоў) і заявіў аб дымісіі ўраду. Сейм вырашыў разгледзець гэту прапанову пасля справаздачы аб дзейнасці ўраду.

**XXXI з'езд Камуністычнай партыі Беларусі** праходзіў у Мінску. Новым I сакратаром ЦК КПБ выбраны **Анатоль Аляксандравіч Малафееў.**

**XI з'езд Літоўскага грамадска-культурнага таварыства** адбыўся ў Пунску. Дзейнічае яно ад 33 гадоў сярод трыццацітысячнай літоўскай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Удзельнікі з'езда прынялі новую праграму дзейнасці, якая ўлічвае змены ў грамадска-палітычным жыцці Польшчы і ў адносінах да Літвы. Былі выбраны новыя ўлады, а старшынёю Галоўнага праўлення ЛГКТ астаўся **Яўген Петрушкевіч.**

**Юбілей трыццацігоддзя існавання адзначала рэдакцыя часопіса для літоўскай грамадскасці ў Польшчы „Аўшра".**

**Міністр абароны Рэчыпаспалітай Польскай Пётр Каладзейчык** у час афіцыйнага візіта ў Нямеччыну выказаў свой непакой з прычыны нестабільнай сітуацыі ў Савецкім Саюзе. Заявіў ён, што Польшча павялічыць лік свайго войска пры савецкай граніцы.

**У Вільні аганьбаваны помнік на магіле жаўнераў Арміі Краёвай,** якія загінулі 13 ліпеня 1944 г. у баі з гітлераўцамі. Надмагільныя пліты былі вывернуты і разбіты.

**Эрмітаж вяртае шэдэўры еўрапейскага мастацтва.** У Познань прыехаў з Ленінграда грузавік з васемнаццаццю скрынямі экспанатаў, якія былі заграблены ў час апошняй вайны з кафедры на Тумскім Востраве.

**Антыяўрэйскія дэманстрацыі мелі месца ў Братыславе.** На пляцы Славацкага нацыянальнага паўстання пару соцень людзей, якія з'явіліся на заклік „Руху дзеля незалежнай Славацыі", выслухалі фашысцкія абвінавачванні ў адрас „міжнароднага яўрэйства".

**Алкагольная афёра** прычыніла дзяржаўнаму бюджэту страту звыш 1,7 більёна злотых. Пракуратура мае намер абвінаваціць у злачынстве тых функцыянераў дзяржаўнай адміністрацыі, якія сваёй дзейнасцю стварылі ўмовы для ўзнікнення страт.

**З канцом лістапада** быў адменены закон, які забараняў продаж алкаголю перад 13 гадзінай.

## Пра нашых пісалі...

### БЕЛАРУСЫ ЗА ГРАНІЦАМІ БЕЛАРУСІ

**Мала хто з нашых чытачоў меў нагоду пазнаёміцца з часопісам „КЛУБ" — грамадска-палітычным месячнікам ВЦСПС (прафсаюзаў) і Міністэрства культуры СССР, які выходзіць у Маскве. У сувязі са скарынінскімі святкаваннямі кастрычніцкі нумар гэтага часопіса амаль поўнасцю прысвечаны Беларусі і яе культуры. Нашу ўвагу прыцягнуў артыкул В. Гуненкі „Беларусь за граніцамі Беларусі". І хаця ў ім трапляюцца фактаграфічныя памылкі, нашым чытачам прапануем вытрымкі з гэтага артыкула, якія адносяцца да Беласточчыны.**

„Аб тым, што дзесьці па свеце раскідана немалая беларуская дыяспара, у рэспубліцы ведалі здаўна. У маладзёжным асяроддзі была нават папулярная песня мінскага барда Зміцрака Сідаровіча „Беларусь за граніцамі Беларусі". Але ўвесь народ быў адарваны ад гэтага культурнага пласта, хаця была гэта не толькі культура бічаванай тады эміграцыі, але і захаваныя шэдэўры народнай класікі, непрызнаныя, або зусім адкінутыя варварскай філасофіяй сталінізму, а таксама ўзоры творчасці насельніцтва загранічных тэрыторый з этнічнай перавагай беларусаў.

Першай беларускай ластаўкай, прыляцеўшай у БССР з-за мяжы, была Беласточчына (паўночны ўсход Польшчы). У Польшчы жыве каля 300 тысяч беларусаў, някепска развіваецца беларуская кнігавыдавецкая і газетна-журналісцкая справа, працуе беларуская радыёстанцыя. З 1987 г. у БССР дазволена падпіска на тыднёвік „Ніва" з Беластока. Менавіта з яго савецкія чытачы даведаліся аб міжнародным кнігаабмене, які прапанавала Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы. І пацягнуліся ў Польшчу паштовыя пачкі з томікамі Караткевіча, Купалы, Гаруна, Багдановіча, і адсюль — кніжкі Петручука, Яновіча, Чыквіна, Барскага, Шведа і іншых, выданыя ў Беластоку, Ольштыне, Варшаве. Былі ў гэтым абмене і грампласцінкі — асаблівую цікавасць выклікалі запісы народных песень у выкананні вядомага беларускага тэнара, які ў свой час спяваў на сцэне міланскага тэатра Ла Скала — Міхася Забэйды-Суміцкага. (...)

Зараз настаў час вяртання народнай спадчыны. Спачатку ў Мінску перавыдалі некалькі кніг польскіх беларусаў: „Сярэбраны яздок" Сакрата Яновіча, „Пожня" Васіля Петручука, „Светлы міг" Яна Чыквіна... Потым быў падрыхтаваны том Масея Сяднёва — вершы і раман „І той дзень прыйшоў". Паэзія Наталлі Арсенневай запалоніла перыядычныя выданні — „Ніва", „Чырвоная змена", „Вярозка", „Грунвальд", „Знамя юности. (...)"



 

# ПРА ЗАГАДКУ СМЕРЦІ ФРАНЦІШКА АЛЯХНОВІЧА

У 37—39 нумарах „Нівы“ ад верасня г.г. чытачы тыднёвіка маглі пазнаёміцца з фрагментамі ўспамінаў Юры Монвіда (псеўданім Францішка Аляхновіча) пад загалоўкам „Страшны год“. Успаміны падрыхтаваны і папярэджаны прадмовай Славамірам Адамовічам. У ёй, між іншым, чытаем: „Дазваляю сабе меркаваць, што менавіта гэтыя ўспаміны перапоўнілі „чашу цярпення“ бальшавікоў. Трэцяга сакавіка 1944 г. Францішак Аляхновіч быў забіты з-за вугла гэтак званым „партызанам“. Сістэма чырвоназорных знішчала перш за ўсё таленты, якой бы зямлі яны не належалі. Таленты, якія не маглі быць служакамі!“.

Што Францішак Аляхновіч не быў служакай — гэта ясна. Але не значыць гэта, што быў ён невыгодны быццам бы выключна „чырвоназорнай сістэме“. З прадмовы відаць, што С. Адамовічу невядомыя іншыя, больш праўдападобныя і верагодныя, версіі смерці гэтага выдатнага беларускага драматурга. Аўтар ніколі не трымаў у руках ні ньюйоркскага „Беларуса“, ні ліпнёвага нумара беларускамоўнага „Кантакта“ за гэты год. Інакш моцна ўсумніўся б у сваіх думках, а заадно і меркаваннях. Сёння аб бальшавіках можна пісаць усё. Не ўсё аднак адпавядае праўдзе. Вялікія сумненні ў святле фактаў выклікае якраз і сцвярджэнне, быццам бы Францішак Аляхновіч, як распаўсюджвала гітлераўская прапаганда, быў ліквідаваны „па загаду Масквы“.

Шмат святла на апошнія хвіліны жыцця выдатнага драматурга пралілі, здавалася б, з выгляду не такія ўжо і істотныя факты, засведчаныя жонкай пісьменніка, а апублікаваны доктарам Баляславам Грабінскім, тагачасным старшынёй Беларускага Нацыянальнага Камітэта ў Вільні, у сакавіку 1984 г. у амерыканскім „Беларусе“. Дарэчы будзе тут працытаваць словы жонкі аўтара п'есы „На Антокалі“:

„У пятніцу, позна вечарам, я адчыніла ўваходныя дзверы на званок і ўвайшоў чалавек векам каля трыццаткі, у кароткай куртцы. Я думала, што нехта з беларусаў, бо я знала толькі нямногіх. Дзіўна толькі выдалася мне, што ён не прамовіў ні слова, каб прывітацца. Ад дзвярэй можна было бачыць Францішка за біоркам у малым пакоіку. Чалавек, якога я ўпусціла, скора падыйшоў да бюрка, выстраліў колькі разоў і хутка выйшаў. Усё гэта трывала некалькі хвілін“.

Выказванне гэтае пярэчыць сцвярджанню польскага пісьменніка Юзэфа Мацкевіча, быццам бы забойца карыстаўся „чыстай беларускай мовай“, у апублікаванай ім у Лондане кнізе „Не тшэба глосьно мувіць“, а разам з іншымі вельмі знамянальнымі фактамі гэтага складанага акупацыйнага перыяду паслужыла выдатнаму знаўцу акупацыйнай праблематыкі д-ру Юры Туронку за падставы рэканструкцыі больш праўдападобных матываў забойства Францішка Аляхновіча, які ў гэты час быў больш невыгодны не бальшавікам, а... Арміі Краёвай! Вядома, Юры Туронак у сваёй публікацыі „Загадка смерці Францішка Аляхновіча“ („Кантакт“, № 2/4/ ад ліпеня 1990 г.) канчаткова і тут не ставіць кропкі над і, аднак ягоныя вывады ў святле прадстаўленых ім фактаў маюць усе адзнакі верагоднасці.

Пра злачынствы Арміі Краёвай на гэтак званых „Усходніх Крэсах“ „Ніва“ пісала ўжо раней (Іван Кадлубоўскі, „Дзеля гістарычнай праўды“, нумар 5 (1760) ад 4 лютага г.г.). На жаль, усе злачынствы Арміі Краёвай у дачыненні да беларусаў і дагэтуль не апрацаваны нікім ні ў Польшчы, ні ў Беларускай ССР. Больш увагі прысвяцілі ім польскія гісторыкі і пісьменнікі на Захадзе. Гэта адна з найбольшых „белых плям“ у сучасны момант у гісторыі Беларусі.

У сваіх меркаваннях д-р Юры Туронак абапіраецца і на выказванні Давідовіча Гора (Янкі Станкевіча), надрукаванага ў эміграцыйным часопісе „Веча“ (нумар 9 ад 1970 г.), у якім дапушчана думка, што „Аляхновіча забіў не „маскоўскі агент“, а дзеячы польскага акоўскага падполля за тое, што рэдагаваны ім „Беларускі Голас“ змяшчаў спісы беларусаў, забітых акоўцамі на Лідчыне“ (цытата са ўспомненага нумара „Кантакта“).

На заканчэнне варта працытаваць і іншыя словы д-ра Юрыя Туронка: „На карысць версіі Станкевіча сведчыць яшчэ адна акалічнасць. Калі б забойства Аляхновіча было выканана савецкім падполлем, то можна было б выявіць адпаведную дакументацыю. Тым часам, як устанавіў Васіль Быкаў, у архівах праваахоўчых органаў БССР адсутнічаюць звесткі пра судзімасць і лёс Аляхновіча („ЛіМ“, 7.10.1988)“.

Так што праўдзівасць выказвання ў „Ніве“ Славаміра Адамовіча трэба па крайняй меры паставіць пад сумненне, бо не абапіраецца яно ні на ніякіх верагодных фактах, ні на дакументах, а ўсяго толькі на прапагандзе і чутках, якія, як гэта часта бывае, з'яўляюцца далёкімі ад праўды.

Як даследчык, між іншым, і творчасці Францішка Аляхновіча, буду вельмі ўдзячны ўсім тым чытачам „Нівы“ і аўтарам, якія змогуць даслаць на адрас рэдакцыі магчымыя новыя матэрыялы ці ўспаміны, звязаныя з загадкавай смерцю гэтага пісьменніка, што дазволіла б канчаткова ўжо высветліць ягоны лёс і паставіць кропку над і. У выпадку патрэбы рэдакцыя і аўтар публікацыі гарантуюць поўную сакрэтнасць.

**Юры Трачук**

# „Вада ў рэшаце“ па-польску

Шэсць гадоў таму назад БГКТ выпусціла зборнік гумарыстычна-сатырычных тэкстаў Міхася Шаховіча „Вада ў рэшаце“. У кніжачцы змешчана дваццаць дзевяць кароткіх апавяданняў, у якіх, як у крывым люстры, аўтар паказвае розныя заганы вясковага грамадства. Высмейваюцца ў іх прагнасць, эгаізм, сварлівасць, п'янства, нянавісць, падазронасць. Паяўляецца таксама матыў разгубленых выхадцаў з вёскі, якія сумуюць па ёй, але не замянілі б гарадскую кватэру і працу на хату і гаспадарку. У кожным апавяданні можна знайсці маралізатарскі падтэкст, павучэнне.

У гэтым годзе беластоцкае Краёвае выдавецкае агенцтва (КАВ) надрукавала польскі пераклад гэтай кніжачкі (таксама кішэннага фармату). На польскую мову пераклала яе Анастасія Шаховіч, жонка аўтара. У зборніку дваццаць сем апавяданняў, на два менш, чым у арыгінале. Не ўвайшлі ў зборнік „Мухі і блохі“ — апавяданне, якое мае казачны характар, і „Школа ветлівасці“, дзея якога адбываецца на фоне чэргаў за таварамі ў магазінах. Укладальніку, відавочна, не падышлі яны з увагі на тое, што зараз у нас мыла і парашкоў усім хапае, а чэргі ў магазінах сталі толькі марай прадаўцоў.

Беларускі арыгінал характэрны тым, што ў ім многа дыялектызмаў, узятых аўтарам з гаворак падбельскіх вёсак. У польскім перакладзе дыялектызмы амаль поўнасцю прапалі. Пераклад зроблены акуратненькай польскай мовай. Калі б не беларускія імёны герояў паасобных апавяданняў (чаму Матр'ёна, а не Матрона ці Матруна?), апісанымя ў ім падзеі маглі б здарыцца ў любой вёсцы ў Польшчы. Шкада, што перакладчыца не пакінула на акрасу тых беларускіх слоў, якія добра вядомыя і ў польскіх дыялектах не толькі на Беласточчыне. Хацябы такія словы, як *бамбіза* ці *барыш*. Здзіўленне выклікае таксама неадэкватнае тлумачэнне некаторых слоў, напрыклад: *сузор'е* перакладаецца на *firmament* ці *бульбянік* — *łąka*. У апавяданні „Вёска“ сказ: *Паласавацца б яшчэ смакавітым дымам паленага бульбяніку“* перакладзены наступным чынам: *Porozkoszować się raz jeszcze smakowitym dymem palonych łąk*..

Замена беларускай народнай лексікі польскімі тэрмінамі згодна з нормамі літаратурнай мовы ў нейкай ступені зрабіла мову герояў менш сакавітай.

Некаторыя моўныя засцярогі не дыскрэдытуюць гэту кніжку. „Кожны пераклад гэта штосьці іншае чым арыгінал, становіцца ён больш уласнасцю перакладчыка, чым аўтара“, — прызнаецца аўтар журналісту „Газеты Всполчэснай“.

Каштоўнасць гэтай кніжкі заключаецца ў тым, што набліжае яна польскаму чытачу свет беларускай вёскі, знаёміць з маловядомым шырокаму чытачу фактам існавання беларускай літаратуры ў Польшчы.

**В. Луба**

Michał Szachowicz, „Woda w przetaku“, tłum. z jęz. białoruskiego Anastazja Szachowicz, KAW Białystok, 1990.




**РАЗМОВА З СЯБРАМ**

Мяне хапае на кароткі верш,
На лёгкі флірт з прыемнаю
жанчынай,
А што я здзейсню у жыцці
найперш —
Не ведаю, як, зрэшты, і прычыны.

І ўвогуле — я дбаю пра сябе,
Сябе люблю, ў сабе люблю капацца,
Сябе выносіць на сваім гарбе,
Каб потым жа сабе і падабацца.

І часта мне даводзіцца ірваць
На целе ўтаймавальную кашулю,
Бо хочацца кахаць, каб не сканаць,
Жыццё змяніўшы на пятлю ці кулю.

Пра кулю я, аднак, траха зманіў,
Бо зброя ў нас даўно не прадаецца.
І піва не заўсёды на разліў,
Ды і на вынас хутка зноў звядзецца.

Так і жывём. А што да маіх вершаў,
Дык гэта ад таго, што ні рубля,
Што продак мой жыццё сваё
завершыў,
Ніколі не хадзіўшы ў сабалях.

Вось так, браток. Ды словам
ты не вер,
Бо прыгажосць адна і варта ўвагі...
Дарэчы, дай дзесятку напавер,
Я ўжо даўно заходжуся ад смагі.

3.6.90 г.

* * *

О божа, як стомлена дыхае цела,
як скрушна рыпяць пазванкі
і суставы.
Вось клапан усхліпнуў і сэрца
замлела
ўсяго на трынаццатым кубачку кавы.

Пусты, як патэльня, пакой, дзе
шпалеры
у цемры бліщчаць фасфарычным
святлом,
дзе сумныя ложкі, шалёныя дзверы,
дзе ўсё, што ні знойдзеш, ёсць
металалом.

Згарэў калярыфер. За шыбаю —
мінус.
Пад коўдрай казённай таксама не ў
кайф.
Заснуць бы, забыцца хоць пастай
„Kolinos“
і з богам праклясці паршывую „life“.

І ўсё ж я шапчу сабе: нельга,
зямеля;
вось трошку пацерпіш, а там — на
прастор,
там зноў будзе воля, сябры
у фатэлях
і ты сярод іх, нібы той Чарнамор.

Зноў будуць размовы, напой,
цыгарэты,
і будзе спакойна, і будзеш ты жыць...
Ды сёння хачу я з адчаем каметы
у трыццаць няпоўных усё
завяршыць!

14.09.90 г.

**ДАЧКА**

Дзесьці ходзяць твае ножачкі,
Па зямлі абцасік стукае.
На травы зялёнай ножычкі
Ты іртом маленькім хукаеш.

У касе тваёй істужачка —
Белы колер і чырвоненькі.
І сама ты нібы ружачка,
А ў руцэ тваёй балёнікі.

І бяжыш ты за прысадамі,
Каля дзедаўскага хутара,
Між Вялікднем і Калядамі,
Як па сэрцы маім сутарга.

**СЛАВАМІР АДАМОВІЧ**

# Выратуй знямелую Айчыну

(Працяг са стар. 1)

сягнуць камплекту касетных магнітазапісаў з першага музычнага фестывалю Маладой Беларусі „Басовішча — 90“. На Беласточчыне гэта, напэўна, зрабіць няцяжка, бо сам я знайшоў тыя запісы ажно ў Канадзе, дзе яны карыстаюцца немалым поспехам сярод тамашніх беларусаў.

На беларускай папулярнай сцэне, дзякуй Богу, цяпер ужо нямала спяваючых жанчын. Ці не згубіцца сярод іх Кася Камоцкая? Бадай, не, калі будзе працягваць працаваць.

Юля Скараход бярэ публіку моднымі рытмамі, Надзея Мікуліч — прафесіяналізмам, Вальжына Цярэшчанка — самім Богам дадзеным голасам... А які ж козыр у Касі Камоцкай?

На маю думку, гэта здольнасць не проста выказаць, а перажываць у песні тыя пачуцці, якія ў ёй закладзены. І пачуцці нібыта ажываюць. І перадаюцца яны слухачу. І таму ён неравнадушны.

Кася Камоцкая перад гледачамі Беласточчыны гэтым летам выступіла ўпершыню. Але можна, бадай, рыхтавацца і да новых сустрэч. Калісьці праз „Ніву“ адбылося завочнае знаёмства з іншымі бардамі — Сяржуком Сокалавым-Воюшам, Вальжынай Цярэшчанка, з рок-гуртамі „Мроя“, „Бонда“... А потым пацяклі ў Польшчу іхныя магнітазапісы, пачаціліся асабістыя сустрэчы, а зараз, нарэшце, з дапамогай фірмы „Мелодыя“ беларуская маладзёжная песня здольная ўвайсці ў кожны дом. Пакуль гэта першы лонгплей „28 зорка“ рок-гурта „Мроя“, але прыдзе час і наступным. Будзе сярод першых, відаць, і Кася Камоцкая. Бо яна і была сярод першых, калі распачынаўся беларускі бардаўскі рух (дуэт „Кася і Алесь“), бо яна ўпэўнена трымае сваю марку і сёння.

**Вітаўт Мартыненка**
**Фота А. Клешчука**



Ануфрыеўскі манастыр у палове XIX стагоддзя.

# Здарылася ў Яблачыне

Усё праваслаўнае беларускае і украінскае грамадства Польшчы глыбока перажывае страту ікон з Яблачынскага манастыра, што над Бугам. Мінула ўжо два месяцы, калі ноччу з 21 на 22 верасня невядомыя злачынцы ўзламалі крату ў рызніцы манастырскага сабornaга храма св. Ануфрыя. Увайшоўшы ў сярэдзіну, злачынцы працягнулі свае рукі на дзве цудатворныя іконы: св. Ануфрыя — апекуна манастыра ды Божай Маці Яблачынскай — „Пророческих пророчений исполнение“. Выняўшы іконы з кіётаў ды забраўшы яшчэ дзве малыя іконы з аналояў, зладзеі падаліся ў невядомым кірунку.

Манахі, якія раніцою прыйшлі правіць службу, былі да болю ўражаны пабачаным: месцы, якія займалі іконы, палохалі пустэчай голага муру. Асабліва перажывалі пабачанае першыя асобы, што адчынілі храм: айцец Ануфрый (ён дарэчы ўдзень перад пакражаю, на свята Прачыстай быў рукапаложаны ў іераманахі) ды паслужнік Міраслаў. Неўзабаве прыбыла паліцыя са Славатыч і Белай-Падляшскай і забяспечыла сляды злачынства (між іншым, сляды ботаў ды колаў самахода). Следства прадаўжаецца... Іконы далей знаходзяцца ў невядомым месцы.

Яблачынскі манастыр узнік у XV ст. Са сваёй бібліятэкай быў ён увесь час важным рэлігійна-нацыянальным цэнтрам тутэйшых зямель, асабліва ў перыяд уніі (1596—1839). Манастыр аставаўся праваслаўным і, такім чынам, вельмі пазітыўна паўплываў на абарону тутэйшага люду перад каталіцызацыяй і паланізацыяй. Драматычныя хвіліны манастыр перажываў у XVIII стагоддзі. У 1753 годзе на Яблачынскі манастыр злачынна напалі манахі-базіліяне з Белай Падляшскай. Заграбілі яны многа каштоўнасцяў, а перад усім дакументы, што пасведчалі правы, дадзеныя манастыру пры яго заснаванні... На два стагоддзі пазней, у 1938 годзе, манастыр быў жывым сведкам акцыі рэвіндыкацыі цэркваў (тады збурылі або спалілі каля 150 храмаў на Холмшчыне і Падляшшы).

Цудатворныя іконы прападобнага Ануфрыя і Яблачынскай Божай Маці, гэта духоўныя жамчужыны манастыра. Ікона св. Ануфрыя, паводле падання, прыплыла Бугам. Мяркуецца, што арыгінал іконы быў напісаны ў XV ст. на кіпарысавай дошцы. Тое ж самае адносіцца да іконы Божай Маці.

Пакража свяшчэнных прадметаў гэта святатацтва, вялікае злачынства супраць царквы, супраць культуры, вялікі грэх.

У манастыры прадаўжаецца настрой цiхага сумавання па іконах. Усё ж манахі спадзяюцца, што іконы вернуцца на свае месца, і горача моляцца:

*Прападобны Ойча наш Ануфрые, малі Бога за нас!..*
*Прападобны Ойча наш Ануфрые, вярніся да нас!*

**Мікола Сахарэвіч**

# Задавальняючы кантракт

9 лістапада гэтага года ў Орлі войт гміны Міхал Іванчук супольна са старшынёю Гміннай рады нарадовай Лявонам Мураўскім, сакратаром гміны Канстанцінам Капонавым і кіраўнічкай гуртка беларускай песні Таісай Кацэйка ды дырэктарам Дома культуры ў Бельску-Падляшскім Аляксандрам Лукашуком заключылі кантракт з гродзенцам Валерыем Кручковым — інструктарам музыкі. Валеры Кручкоў абавязаўся 2—3 разы ў месяц прыязджаць у Орлю і займацца арлянскім хорам. Гэта радасная навіна і для хору і для насельніцтва Орлі, а можа нават і цэлай Беласточчыны. Арлянскі хор цаніўся вельмі высока, але калі няма інструктара, дык і не было канцэртаў. Родная паэзія жыве ў сэрцах арлянскіх самадзейнікаў. Хочацца паспяваць на сваёй мове, апрануцца ў народны строй і паказаць свае мастацтва народу. Прыемна, што ізноў пачуюцца родныя песні, а яны ж прыносяць і сардэчнае цяпло, і прыхільнасць да свайго, а некаторым і жаль, тугу, што прайшла маладосць. Такім чынам, у галіне культурна-асветнай дзейнасці пашыраецца супрацоўніцтва з Беларуссю.

**М. Ляшчынскі**

# Беларусы ўсіх краін!

Чатыры гады палоніласа праўда аб маштабах і выніках чарнобыльскай катастрофы. Сапраўдную трывогу з прычыны небяспекі паступовай атамнай смерці, пагражаючай беларускаму этнасу, адзваніла чарнобыльская канферэнцыя, што адбылася ў Берліне 22—24 чэрвеня 1990 г. Народны дэпутат БССР, старшыня Сойму БНФ Зянон Пазняк у сваім выступленні на канферэнцыі выявіў цэлую жудасць фальсіфікацыі вынікаў катастрофы. Спасылаючыся на падлікі вучоных, сілу радыеактыўнага паражэння зраўняў ён з 90 хірасімскімі атамнымі бомбамі, ды заявіў, што 70 прац. гэтага смерцяноснага рэчыва апала на Беларусь.*)

Факт засакрэчанасці сапраўднага характару катастрофы выявіла і Бюро ЦК КПБ на XX пленуме 23 чэрвеня 1990 г., ды абвінавачіла за гэта цэнтральныя ўлады саюза.

Нядаўна міністр замежных спраў Беларусі Пятро Краўчанка паведаміў увесь свет з трыбуны ААН аб трагедыі, прычыненай чарнобыльскай аварыяй, назваўшы Беларусь атамнай пустыняй. Услед за гэтым 9.XI.90 г. стала размяркоўвацца ў ААН магчымасць помачы ў ліквідацыі вынікаў катастрофы, хоць раней прапанову помачы СССР адкінуў („Rzeczpospolita“ 10/11.XI.1990).

Гэта апошнія акорды змагання за выяўленне праўды пра Чарнобыль, у якім працаўнікам быў не толькі маскоўскі „цэнтр“. Вось што заявіў на гэтую тэму народны дэпутат СССР Гаўрыла Папоў: „... дошли же на пятом году перестройки „вожди“ белорусского аппарата до того, чтобы даже валюту для жертв Чернобыля использовать для своего отдыха за границей“ („Огонёк“ № 10, 3-10 сакавіка 1990 г.).

Яшчэ на ўспамянутай чарнобыльскай канферэнцыі ў Берліне сацыёлаг Зелянкоў з Мінска прабаваў накінуць погляд, што няма ўжо ад чарнобыльскай аварыі ніякай небяспекі, астаўся адзін страх — масавы псіхоз.

Вядомая беларуская журналістка Святлана Саўрасава ў гутарцы перад камерамі польскага тэлебачання ў Варшаве 10-га верасня г.г. выясніла, што сваю праўду пра Чарнобыль яна апублікавала ў красавіку 1990 г. у польскай прэсе, бо спробы не публікацый на Беларусі сустрэліся з супрацівам.

Узяўшы ўсё гэта пад увагу, становіцца яснай прычына стварэння па ініцыятыве народнага дэпутата БССР Генадзя Грушавога грамадскага камітэта „Дзеці Чарнобыля“ ў процівагу падобнай арганізацыі, створанай дзяржаўнымі ўладамі. Выступленне Святланы Саўрасавай у польскай прэсе адгукнулася шырокім рэхам. У цэлай краіне людзі добрай волі зразумелі, што ліквідацыя вынікаў чарнобыльскай аварыі, гэта шматгадовы складаны працэс, які не пад сілу аднаму заморанаму народу, што перш за ўсё трэба ратаваць здароўе і жыццё людзей — асабліва дзяцей.

Шматлікія арганізацыі ды сем'і выявілі волю прыняць на канікулы групы дзяцей з чарнобыльскай зоны ці паасобных малышоў у сем'і. Скарыстала з гэтай прапановы больш 2 тысяч дзяцей летам г.г. Цешыць факт, што прыблізна чвэрць гэтай колькасці была прынята беларусамі Польшчы, перш за ўсё Беласточчыны, дзе таксама арганізаваўся камітэт помачы дзецям Чарнобыля з удзелам польскіх і беларускіх дзеячаў.

З Вільні пішa мне Мікола Рулінскі, што віленская „Сябрына“ таксама ўключылася ў рух помачы дзецям Чарнобыля.

Разуменне і адчуванне бяды, агарнуўшай Радзіму, аб'ядноўвае, я перакананы, беларусаў усіх краін свету ў пачуцці абавязку ратавання ад небяспекі сваіх суродзічаў у Краіне. Ды час тут стаў найдаражэйшым элементам. Кожны наступны месяц, тыдзень, дзень можа пераполніць чару бяды — прычыніць няўхільныя змены ў арганізмах людзей, асабліва ў маладых арганізмах пад працяглым дзеяннем радыяцыі.

Абнадзейваюць весткі, што землякі на эміграцыі, вядомыя з ахвярнасці, апрача неадкладнай грашовай помачы мяркуюць сабраць сродкі на пабудову інтэрнату ў чыстай зоне адзінокім бездапаможным людзям. (Ад Святланы Саўрасавай я даведаўся, што ў чарнобыльскай зоне знаходзіцца 6 тысяч дзяцей — круглых сірот. Рассеянне іх па дзіцячых дамах цэлага Саюза абазначае беззваротную страту для Беларусі).

Ала Орса-Рамана са сваім нью-йоркскім калектывам „Васілёк“ прывезла бясцэнны дар — неабходныя лекі.

Вядомыя і на бацькаўшчыне з ахвярнасці для грамадскіх справаў землякі з Лідчыны, што жывуць у ЗША, Мікола Грэбень і Уладзімір Пялеса з групай іншых сяброў дэкларуюць пагасіць кошт харчавання і апекі за групу дзяцей у будучым годзе, якім я, як і сёлета, забяспечу, даступнымі мне срод-

# Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў

## 2. СУСТРЭЧА З НЬЮ-ЙОРКАМ

Ніколі не думала, што Нью-Йорк ад Варшавы так блізка! Пяць разоў у самалёце далі нешта перакусіць, паказалі нейкі фільм, пад музыку, якая лілася з навушнікаў, мне ўдалося крыху ўздрамнуць — і ўжо сказалі, што пад намі Нью-Йорк.

Калі я сядала ў самалёт, мела ціхую надзею, што адной са сцюардэс будзе дачка Туронкаў. Я чула, што яна лётае на гэтай трасе даволі часта, і мне з ёю было б усё ж спакайней. Праўда, была сярод сцюардэс адна дзяўчына, якая магла б быць іх дачкою. Была яна такая мілая і ўважлівая, што мне падумалася: з такой нават у космас можна ляцець спакойна! Аднак ні на Юрку Туронка, ні на яго жонку Зіну не была яна занадта падобная, а пытацца пра яе я неяк не адважылася. А шкада, бо толькі праз пару месяцаў у Варшаве я пазнаёмілася з Наталляй асабіста. Гэта была яна! Няўжо? — не паверыла адразу дзяўчына; але спраўдзіла ў сваіх нататках: так, сапраўды ляцела 28 жніўня!

Я вельмі здзівілася, калі сказалі, што мы ўжо ляцім над Нью-Йоркам. А мне ж здалося, што мы прызямляемся над нейкім вялізным мястэчкам — пад намі распасціраліся вялікія купіны невялікіх аднасямейных домікаў, якія абмываліся амаль з усіх бакоў блакітнымі хвалямі. А я ж сабе Нью-Йорк уяўляла зусім інакш... Адкуль жа мне было ведаць, што сапраўдны Нью-Йорк складаецца з вялізных раёнаў, якія калісьці былі мястэчкамі, а там пераважалі адна- і двухпавярховыя прыватныя дамы... А Нью-Йорк, такі, якім я ўяўляла яго сабе паводле фільмаў і здымкаў, — гэта толькі скалісты Манхатан з лесам небаскробаў на ім.

Аб усім гэтым я даведалася значна пазней.

Амаль не заўважыла, калі наш „Боінг“ прызямліўся. Мая суседка злева з вялізнай дарожнай сумкай, перапоўненай чаем розных гатункаў, замітусілася. Яна ўжо была вопытная: полька, жыве на Фларыдзе, у Амерыцы наогул ужо 17 гадоў, але дахаты ў Варшаву ездзіць штогод. „Па чай! — пажартавала яна. — У Амерыцы ж ёсць чай толькі ў мяшочках!“ „О Божа, — падумала я, — чаму ж я не ўзяла з сабой пару пачак свайго любімага „эль-грэю“? І сум па праўдзівым чаі, традыцыйным заварваннем якога не дураць сабе галаву аснашчаныя супертэхнікай амерыканцы, праследаваў мяне да канца майго прабывання ў Амерыцы...

Суседка рушыла наперад, а я за ёю. Ніякага тамажнага дагляду не было, але доўга трываў кантроль пашпартоў. Малады чалавек, які ўзяў мой пашпарт у рукі, спытаў, ці можа ён гаварыць са мной па-англійску. Лепш па-нямецку, кажу, а дзяўчына, якая, відаць, асіставала яму, глянула на яго прашальна: „Я б хацела... па-руску“. Чалавек, аднак, быў станоўчы і вырашыў, відаць, што павінен асабіста скантраляваць мяне.

— На колькі вы прыехалі? — спытаўся.

— На адзін месяц, — кажу.

— Але ж вы можаце застацца на паўгода, у вас жа віза да месяца лютага! — пераконваў ён мяне.

— Я прыехала на месяц.

— Ці пакінулі вы дома дзяцей?

— Так, — паспяшалася я панямецку запэўніць яго ў сваёй лаяльнасці, — не толькі „тохтэр“, але і „гростохтэр“.

І, відаць, гэты аргумент пера-



Вера і Францішак Бартуль на з'ездзе ў Кліўлендзе.
Фота Івана Кульбеды.

# БЫЛО

Мікіта быў строгі чалавек. Нікому не дараваў знявагі, кожнаму адпомсціў. Да жонкі адносіўся як да нявольніцы. Усе гаварылі, што яна мучаніца, а не мае ніякага граху.

Аднойчы прыйшло Мікіту ў галаву такое, якое нікому іншаму не прыходзіць.

Трэба было абараць бульбу. Мікіта зрабіў саху, сядло і сеў вярхом на каня.

— Ты добра трымай саху і ары як трэба, — загадаў жонцы.

Гнаў каня, як ашалелы, а жонка бягом бегла за ім. Як толькі заўважыў, што недзе корч бульбы падараны або дрэнны радок, як не разане да крыві бічом па жончынай спіне.

Мужчыны пазбіраліся ля поля Мікіты і рагаталі, а жанчыны праклінаді ката.

Кончылі абворваць бульбу. Жонка павалілася непрытомная. Мікіта закінуў яе на каня, як мяшок сена, і так павёз.

**Аўрора**

# Музей у Камянюках

Чым з'яўляецца Белавежа ў польскай частцы Белавежскай пушчы, тым у беларускай — Камянюкі, невялікі пасёлак, што ў Камянецкім раёне. У абодвух мясцовасцях знаходзяцца музеі, якія знаёмяць прыезджых з усяго свету з прыродай нашай жамчужыны. Чытачы „Нівы“ наогул добра ведаюць белавежскую пляцоўку, менш жа камянюцкую.

Музей займае 6 выставачных залаў, якія размешчаны на двух паверхах. У ім каля тысячы экспанатаў. З музеем спалучаны вальерны сектар, у якім паказваюць некаторых прадстаўнікоў белавежскай фауны. Штогод праз камянюцкую пляцоўку праходзіць не менш чым 150 тыс. наведвальнікаў.

У першай зале музея наведвальнікі знаёмяцца з гісторыяй пушчы, у другой — з зубрамі і аленямі, у трэцяй — з белавежскім лесам, у чацвертай — з пушчанскімі птушкамі, у пятай — з воднымі птушкамі, рыбамі і пушнымі звяркамі і ў апошняй зале — з меншымі млекакормячымі. Асабліва эфектыўна рэкамендуецца ў музеі калекцыя розных відаў грыбоў. На месцы можна купіць сувеніры, выдавецтвы, паштоўкі.

**П. Байко**

Фота В. Рынажэўскага



*Турыстаў вітае сам уладар пушчы.*



*Зала з аленямі.*

канаў яго найбольш у тым, што не буду прабаваць застацца ў Амерыцы назаўсёды, бо прычапіў да маёй візы нейкую белую паперку (відаць, для эвідэнцыі на камп'ютэры) і сказаў, што магу ісці.

Узяўшы свае рэчы, я выйшла ў апошнюю залу, дзе ўжо не было ні кантролю, ні „прыляцеўшага" багажу. Там сустракалі прыехаўшых.

Ніхто не чакаў мяне... А я ж перад ад'ездам пазваніла сп. Веры Бартуль, і яе муж, сп. Францішак Бартуль, сказаў мне: „Адачка, абавязкова сустрэнем, а як жа!". Ляцеўшая са мной побач полька з Фларыды, якая вырашыла заапекавацца мною (плануе адкрыць у Беластоку „бізнес"), пачала нервавацца: „Ну, што ў нас за людзі, як так можна!" — і, хаця я надта пратэставала, пабегла размяняць мой долар на „квотры", каб пазваніць, ды нават пазваніла Бартулям, але ніхто не адказаў. Маркотная, бо бачыла розныя звычаі сярод землякоў, вярнулася яна, наракаючы на людзей.

З адкрытых на двор дзвярэй бухала 27-градусная гарачыня, недзе ў глыбіні маёй душы адазваўся лёгкі непакой, але як магу найспакайней гавару гэтай жанчыне:

— Не хвалюйцеся, ідзіце на свой самалёт у Майамі! А я буду тут стаяць. Яны не такія. Калі сказалі, што прыедуць, то прыедуць!

Мы толькі пачалі развітвацца, як паявіліся Вера з мужам, і мы кінуліся ў абдымкі. Цікаўнасць маёй спадарожніцы, якую я пазнаёміла з маімі выратавальнікамі, была задаволена.

У мурашніку запаркаваных машын мы ледзь знайшлі „кадыляк" Бартулёў. Яшчэ пакруціліся па другім аэрадроме, куды меў прыляцець нехта з Мінска, а спатыкаць меў сп. Шукелайць, дык варта было падвезці. Але ж аб'ехалі аэрадром шэсць разоў навокал, агледзелі з усіх бакоў, хаця нідзе нельга было спыніцца, Вера нават выйшла і шукала ў сярэдзіне, але нікога ўжо не было.

Такім чынам, павезлі яны мяне ў свой Манхасэт, які ад цэнтра Нью-Йорка ляжыць у 30 кіламетрах. Не надта я зразумела, калі той Нью-Йорк скончыўся. Уся дарога была таксама забудавана, быццам бы вялікі горад і не канчаўся. І раптам мы апынуліся ў раёне даволі прыгожых, акуратных асабнякоў, патанаючых у зелені дрэў. Тут якраз і жыла сям'я Бартулёў.

Спадарыня Вера — чалавек дзельны. Адразу спыталася, ці хачу пабачыць, дзе жывуць нашыя. Вядома, што хацела. Не так, як у нас — што трэба адпачыць спачатку, наесціся, ізноў адпачыць — раскачацца, так сказаць, а тады ўжо і аглядаць можна. Дык павазілі па Манхасэце, паказалі, дзе жыве Ала Орса-Рамана, якая кіруе танцавальнай групай „Васілёк", дзе дом Янкі Запрудніка, рэдактара газеты „Беларус", дзе жыве Вера Заморская, удава па „капіталісце" Міколе Заморскім, які даслоўна няцэлых два гады таму назад наведаў нашу рэдакцыю.

І незаўважальна апынуліся мы каля дома сп. Бартулёў. Вера націснула ў машыне кнопку, адчыніліся дзверы гаража — і „кадыляк" уехаў у сярэдзіну.

**(Працяг будзе)**

**Ада Чачуга**



**Удалечыні відаць Манхатан —цэнтр Нью-Йорка.**

**Фота аўтара**

## ВЫЕЗД ПА ЗДАРОЎЕ

Дзякуючы мінскаму таварыству „Радзіма", якое вядзе дзейнасць сярод беларусаў ва ўсім свеце (а асабліва Мікалаю Іванавічу Васілёнку) і нашаму Галоўнаму праўленню БГКТ, восенню гэтага года ўдалося мне пабываць на лячэнні ў санаторыі „Крыніца", што знаходзіцца ў прыгожым сасновым лесе над возерам у адзінаццаці кіламетрах ад Мінска.

Не буду апісваць усіх уражанняў з пабыўкі ў санаторыі, але не магу прамаўчаць, што выдатна падмацаваў сваё здароўе. Не ведаю, ці ў гэтым санаторыі ўсе лекары „на падбор", але я трапіў у рукі доктара Хведара Сямёнавіча Кузнечыка, які ўжо першай размовай, нібы чарадзей, падбадзёрыў мяне, а пасля абследавання прыпісаў мне такія працэдуры, пасля якіх я стаў намнога здаравейшы.

Нельга прамаўчаць і таго, што нягледзячы на палітычную і эканамічную сітуацыю ў Беларусі, персанал санаторыя стварае ўтульную атмасферу сваёй зычлівасцю, культурай і спакойнымі адносінамі да курортнікаў. Акрамя доктара Кузнечыка ніколі не забуду масажыстку Анастасію Аляксееўну Патапенка, Валянціну Трахімаўну Чорную, якая мае абавязкаў звыш галавы, але ўсё роўна паспее яшчэ хворым і верш прачытаць, і аб творчасці беларускіх аўтараў пагаварыць і паспрачацца наконт творчасці Івана Шамякіна, усе творы якога ведае, ды спадарыню Кавеліч з рэгістратуры.

Пад канец нашай пабыўкі ў санаторыі прыехаў намеснік старшыні таварыства „Радзіма" спадар Мікалай Іванавіч Васілёнак са сваім супрацоўнікам Уладзімірам Міхайлавічам Пішчака і прывёз нам цудоўныя падарункі — кніжкі і пласцінкі.

Ну, і як тут не быць удзячным і не цешыцца, што ў нашыя няўдзячныя часы ёсць яшчэ людзі, якія гатовы ўсім дапамагчы. Дзякуй ім за гэта!

**Васіль Петручук**

## НОВЫ ВАРЫЯНТ СТАРОЙ КАНЦЭПЦЫІ

У чыкагскай газеце польскай эміграцыі „Gwiazda Polarna" ад 18 жніўня 1990 г. паявілася наступная зацемка:

Niewykluczone, że postępująca dekompozycja naszego wschodniego sąsiada skłoni ku nam republiki białoruską i ukraińską. W minionych czasach mieliśmy zadarte z obydwoma i to mocno, ale może totalne odwracanie aliansów europejskich, którego jesteśmy świadkami, podyktuje tym państwom zbliżenie z Polską.

Dla nas byłby to nowy wariant starej koncepcji Piłsudskiego: buforowej strefy oddzielającej Polskę od Rosji, a przy okazji w pewien sposób realizacja wielkomocarstwowych polskich mrzonek o Polsce od morza do morza, bo łatwiej i bliżej byłoby nam nad Morze Czarne.




# НОВЫ ПАЛІТРУК

**Нядаўна трапіла мне ў рукі „Жыцце Варшавы" № 257 ад 5 лістапада 1990 г. Гляджу і вачам не веру: Сакрат Яновіч змясціў там артыкул „Nowe państwo: Białoruś". „Вельмі добра, — думаю, — у Беластоку не друкуюць, то ва ўсёй Польшчы пазнаёмяцца". Аднак, прачытаўшы яго, стала мне сорамна, што наш народ такога „вадзірэя" дажыўся.**

**У артыкуле Яновіч выяўляе таямніцы нядаўняй сустрэчы „беларусаў" у Белавежы. Былі там прадстаўнікі з Мінска, Лондана, Нью-Йорка, але ўсе чужыя, хоць Яновіч і прызнае, што ў Беларусі дамінуе праваслаўнае веравызнанне. Асабовы склад тае сустрэчы і яе тэмы выглядаюць больш на „Іудзін вечар", бо абдумвалі там, як знішчаць на Беларусі Праваслаўе. Піша ён гэтак: „Patrioci białoruscy, sięgający dzisiaj po władzę w Mińsku, widzą w unityzmie istotny czynnik zmartwychwstania narodu białoruskiego"(!). А дзеецца гэтак таму, што уніяцкая царква была „niegdyś dominującą tutaj (do 1839 r.) i wielce zasłużoną dla narodowości białoruskiej (broniła wówcza języka narodu, jego kultury, odrębności kraju)" (!).**

**Прабачце, але кожны, хто хоць крышачку патрапіць думаць, спытаецца: „А калі ж было такое свята, што унія дала незалежнасць або яе бараніла? Калі фактычна Беларусь была незалежнай краінай?" Усім жа вядома, што якраз наадварот: унія рабіла ўсё магчымае і немагчымае, каб беларусу нават і не снілася самастойнасць. Унія забараніла беларусу быць панам. Хоць яна была пабудавана на здрадзе і спакушала наданнем аднолькавых з католікамі правоў, дык заставалася тым самым, што і роднае Праваслаўе — „chłopską wiarą". Толькі той, хто стаў поўным католікам, той і атрымоўваў поўныя правы. Таму на Беларусі прапалі (перахрысціліся ў каталіцызм і спаланізаваліся) усе магнацкія і шляхецкія роды.**

**Жахам праймае факт, што ўдзельнікі „сустрэчы", а з імі і аўтар артыкула, гэтак лёгка адцураліся ад мора беларускае крыві і слёзаў, што высмакталі „місіянеры" уніі, калі яе, як ярмо, накідвалі нашаму народу. Аўтару і ягоным хаўруснікам абыякава тое, што гэтыя псеўдахрысціяне ў цэрквах па ўсёй Беларусі таптлі Святое Цела Хрыстова — Прычасце, бо Яно, бачыце, праваслаўнае. Чым яны розніліся ад сучасных атэістаў? УНІЯ БЫЛА ПАЛІТЫКАЙ, А НЕ ВЕРАЙ!**

**Унію ліквідавалі на Беларусі ў 1839 годзе — гэта праўда. Але хто яе ліквідаваў і чаму? Ліквідавалі яе самі уніяты — уніяцкія епіскапы і уніяцкія святары, бо бачылі, што яна вядзе да латынізацыі і паланізацыі. Якія ж тады былі „заслугі для беларускае нацыянальнасці?". Усім жа вядома, што яна была задумана дзеля таго, каб гэтую нацыянальнасць ліквідаваць.**

**„Абараняла мову народа" — уводзіць у зман чытачоў аўтар артыкула. Калі чытаеш дакументы, якія былі напісаны за Якава-Уладзіслава-Ягайлы, яго сына Казіміра ці ўнука Жыгімонта, або апошняга Ягелона — Жыгімонта Аўгуста (тады уніі яшчэ не было), то бачыш, што пісаліся яны на мове, якою да сёння карыстаецца насельніцтва Беласточчыны. Гэтаю моваю карысталіся ДА УНІІ праваслаўныя беларусы. Пакажыце, спадар Яновіч, такое за панаванне „абаронцы беларушчыны" — уніі! Што беларускае надрукавалі васільяне-уніяты ў Супраслі? Наадварот, ГЭТА ПРЫ ЎСЕЎЛАДНЫМ ПАНАВАННІ УНІЯТАЎ БЫЛО ЗАБАРОНЕНА Ў 1697 ГОДЗЕ ЎЖЫВАННЕ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ.**

**Епіскап Іосіф Сямашка быў прадстаўніком уніяцкае царквы пры царскіх уладах у Пецярбургу. Чаму ён убачыў у вяртанні да Праваслаўя шанц абараніць беларускі народ і ягоную спрадвечную бацькоўскую веру? Зразумела, што ў Польшчы яго не любяць, бо ён расстроіў надта ж хітры план знішчэння беларускага народа, бо вярнуў душу нашаму народу. Засталося толькі саромецца той удзячнасці, з якою цяпер спадар Яновіч выстаўляе рэцэпты на аднову веры ў сваім народзе і на сваёй Радзіме. (...).**

**Памятаю, па нашай вёсцы ў 1940 годзе хадзілі палітрукі і на сходах „навучалі", што Бога няма. Адна бабуля, нарэшце, „вучонаму" атэісту задала пытанне: „Сынок, скажы, а чаму гэтак ёсць: конік, кароўка ці авечка — усе траўку ядзяць. А калі апаражняюцца, дык адно яблычкі губіць, другое — пампушкі, а трэцяе — бобікі?" „Чёрт его знает!.." — на тое атэіст. А бабуся яму: „Ага, бачыш, сынок, калі ты ў гаўне не разбіраешся, чаго ж ты Бога чапляешся?!"**

**МІХАСЬ ГРЫГАРУК**

(Працяг са стар. 5)

# Лёс

з сінім чайнічкам па ваду на гарбатку.

— Во, Адэленцыя зноў госцям гарбатку робіць!

Адэліны былі ўсе акадэмікі — і „Сверкі“, дзе жыла, і цэлая Звежынецкая, і Кракаўская...

Многім хлопцам яна падабалася, але яшчэ не думала аб замужжы — чаго сабе вязаць жыццё ў 20 год? Бацькі пажаніліся ў 17 год, і што з таго? Нажывецца яшчэ чалавек! Бацькі так кахаліся, а цяпер на сябе глядзець не хочуць.

Адэля нават не заўважыла Паўла, спакойнага студэнта юрыстыкі, тыповага букваеда, які не зводзіў з яе вачэй, калі наведвала са сваімі вясёлымі сяброўкамі яго не менш вясёлых калег у яго пакоі. Сустрэліся яшчэ раз, праз год пасля заканчэння вучобы, на нейкім свяце ў знаёмага. Адэля была ў дэпрэсіі — пакінуў яе мастак-варшавяк, яе вялікае каханне (паехаў па шлюбны пярсцёнак і не вярнуўся). Працавала Адэля ў вясковай школе, але неяк вырвалася ў Беласток адпачыць, сустрэцца са знаёмымі. Многа было радасці і віна. Павал набраў адвагі, а Адэля на гэты раз хутка ап'янела. Павал ужо не выпусціў дзяўчыну з рук.

Хутка згулялі вяселле — было ж „у дарозе“ дзіця. Праўда, бацькі Адэлі, якія ніколі не цікавіліся духоўным жыццём дачкі, вельмі пераняліся тым, што яна выходзіць замуж за праваслаўнага, і не прыехалі на вяселле, так як і сёстры. Толькі брат прызнаўся да сястры, прыехаў.

— Гдзе я трафілэм, чы я естэм у рускіх? — крычаў, чуючы беларускія мову і песні.

Сям'я Паўла, якой нехта нагаварыў благое на Адэлю (праўдападобна, яе найлепшая бельская сяброўка), ніколі не прыняла Адэлю за сваю. Павал, як аказалася, быў псіхічна неўраўнаважаны і лячыўся, але гэта не апраўдае яго ў тым, што пачаў жонку біць і тры разы прымусіў яе да абортаў — вядома, „не мелі магчымасці выхоўваць столькі дзяцей“. Любіў выпіць, а тады, пасля пабояў, плакаў і перапрашаў; надта быў чуллівы.

Наймалі кватэры ў розных гарадах. Павал суседзям гаварыў, што Адэля — гэта яго дваюрадная сястра, якой ён, добры брат, дапамагае гадаваць... байструка. Сам прападаў цэлыя тыдні, не пакінуўшы Адэлі ні граша; каб не памерці з голаду і пракарміць груддзю сваю дачушку, Адэля прадала свой шлюбны пярсцёнак. Неяк залатвіла сабе працу, але муж праз дзень усё адклікаў — пайшоў на прадпрыемства і сказаў, што жонка адмаўляецца ад гэтай працы, а ўвогуле — яна п'яніца і псіхічна хворая, таму не можа працаваць.

Адэля рашыла ўцячы да бацькоў. Праз пару дзён прыпёр муж — на калені падаў, рукі-ногі цалаваў, каб вярнулася.

Прыехала. Хата была пустая. Сёстры Паўла забралі з кватэры ўсё — нават занавескі, якія Адэля купіла са стыпендыі, усе шлюбныя падарункі, матчына тканае пакрывала... Калі Адэля паявілася перад веснічкамі адной з Паўлавых сясцёр, тая крыкнула з-пад клуні:

— Не ўпушчу шлюху на панадворак, гаварыць не стану! Ты чаго ўчапілася да нашага брата? Ты яму зламала жыццё!

Павал піў. Адэля, адцятая ад усіх, пачала выпіваць таксама. Цярпліва чакала мужа, які дзесьці „афармляў“ сабе новую працу. Не ведала, што Павал пачаў паяўляцца з кветкамі ў сваёй прыгожай сваячкі Ганны. Дзяўчына ведала Адэлю і расказала ёй аб гэтых гідкіх для яе залётах. Адэля ўсё ж прабачыла Паўлу — зноў была цяжарная.

Пераехалі ў Беласток, нанялі маленькі пакойчык за шалёныя грошы. Адэля нарадзіла мёртвага хлопчыка. Чым жа мела карміць? Папяросным дымам, які напаўняў яе высахшыя грудзі?

Бачылі Адэлю, як шпацыравала па чужых агародчыках. І Паўла там бачылі, з поўнай торбай, як хадзіў між градкамі з прыгожай, як анёлак, дзяўчынкай, якая рвала кветкі. Дзяўчынка гэтая ў паўтара годзіка гаварыла поўнымі сказамі, словамі, якіх ужываюць 5-гадовыя дзеці; вядома, дзіця адукаваных бацькоў.

А што скажа, як вырасце? Што ў бацькоў нараджаюцца дзеці. Часам у нядобрых — добрыя, толькі часам лёс іх крыва пабяжыць...

**Лукаш Баравіцкі**

## Вер-не-вер

**Астроне, мне прыснілася мая сястра. Быццам бы стаіць яна на мосце, а пасля сыходзіць з гэтага маста і вітаецца са мною. На прывітанне мы цмокнуліся.**

**На другі дзень сястра пазваніла мне і сказала, што ў яе нарадзіўся ўнук. Ці можа мой сон мець нейкую сувязь з гэтым фактам?**

**Віка**

**Мне, Астроне, прысніўся страшэнны сон. Быццам бы перада мною паявілася вялізная птушка. Я ведаю, што гэта ястраб, але ён велічынёю з вялізнага арла, а нават большы, бо калі сядзеў, то быў у рост чалавека. У гэтага ястраба было падбітае адно крыло і ён сядзеў, прыцiскаючы гэтае крыло да сябе. І раптам гэты ястраб падыходзіць да мяне, хапае мяне сваёй дзюбай за руку і грызе. А дзюба такая вялізная, як пашча ў кракадзіла, і з вуснаў гэтай страшэннай птушкі я чую беларускія словы: „Халерачка!“. Я адскочыла ад гэтай птушкі, а яна падскоквае ізноў да мяне са сваёй вялізнай пашчай і зубамі і зноў грызе мяне, на гэты раз, гаворачы па-беларуску: „Хвароба!“. У гэты момант я ўбачыла, што воддаль стаіць мой муж, і пачала крычаць са страху і клікаць яго на ратунак. На гэтым прачнулася і доўга не магла заснуць.**

**Бася**

**Віка! Твой сон якраз прадвяшчаў нейкую мяжу, перамену, нешта новае. Аб гэтым сведчыць той мост, з якога сышла твая сястра. Значыць, прыснілася табе правідлова. Паявіўся ж новы чалавек. Цмок тут не мае значэння.**

**Што датычыць твайго сну, Бася, дык абазначае ён, што ёсць у цябе нейкія ворагі, якія імі не павінны былі б быць (бо птушка наогул прадвяшчае добрае). Будуць яны цябе грызці і кусаць. Відаць, дапаможа табе перамагчы іх твой муж.**

**Астрон**

## Сардэчныя тайны

Сэрцайка, не было яго сем месяцаў. Яго — гэта значыць майго мужа, які ад месяца красавіка гуляў сабе па волі, жывучы на вёсцы ў сваёй мамы. Прыехаў да нас у горад неспадзявана. Дзеці былі ў школе, дык адразу зацягнуў мяне ў пасцель і мы пераспаліся. Я чула, што за гэтыя сем месяцаў, калі яго не было з намі, у яго была нейкая дзяўчына. І так была ўжо вырашыла падаваць на развод нават ды на аліменты, але ж тут узяў ды з'явіўся.

Не скажу, было мне з ім вельмі прыемна, бо мушу табе прызнацца, Сэрцайка, што я яго надалей кахаю, нягледзячы на ўсе прыкрасці, якія ён мне зрабіў.

Мне было і прыемна і страшна — ён жа такі няслоўны. Але я тулілася да яго і пыталася, ці мае яшчэ да мяне агеньчык. А ён пацяшаў мяне: калі будзеш падаграваць гэты агеньчык, дык можа ізноў ён разгарыцца ў полымя! І вось цяпер я чакаю яго. Мае зноў прыехаць на днях. Збегала да гінеколага і папыталася, якія ён прапануе найлепшыя антыканцэпцыйныя сродкі. Усё ж такі дзяцей больш з ім мець пакуль што не хачу, бо і так ёсць ужо двое. А як бы майму мужу зноў захацелася пайсці на 7 месяцаў... Мой муж, трэба прызнацца, ужо не першы раз адыходзіць ад нас і вяртаецца. Наогул дык так было ўсё жыццё, а маёй жа старэйшай дачушцы ўжо 13 гадоў. Было і так, што пакінуў мяне з ёю, калі было ёй толькі пяць месяцаў, а вярнуўся толькі праз год і толькі дзеля таго хіба, каб зрабіць другое дзіця. Бо зараз жа ізноў адышоў. А потым ужо так і было. Але цяпер мне хочацца верыць, што вернецца ён ужо назаўсёды. Немалады ўсё ж такі — 37 гадоў ужо яму (мне ўсяго 32). Вельмі перажываю, што мой муж не мае пастаяннай працы. Калісьці трэба было абавязкова працаваць, а сёння дык за тое, што ён не працуе, яшчэ яму гатовы падзякаваць. Але, можа, неяк паразумнее, знойдзе працу, калі вырашыў ізноў быць разам з намі. А што ты думаеш пра ўсё гэта, Сэрцайка?

**Анеля**

Анеля! Думаю, што твой муж не мае гонару. Які ж гэта мужчына, які не мае ўнутранай патрэбы да працы?! Абстрагуючы ад таго, які ён ёсць у пасцелі, ужо на падставе таго, што ты напісала, магу сцвердзіць, што ён звычайнаяануча, калі можа падкінуць дзяцей выключна на тваё выхаванне. А дзе ж той мужчынскі гонар, мужчынская сіла?!

Што датычыць цябе, дык абсалютна асуджаю тваі адносіны да мужа. Веру, што ты яго кахаеш, але на працягу стольких гадоў няўжо не змагла ты знайсці ў сабе ўнутранай сілы, каб неяк рашуча адцяцца ад яго?! Ты ж мучыш дзяцей і сябе. Перажылі б ужо раз ды й годзе! А ты ж асудзіла сябе на вечную паняверку, на яго прыходы і адыходы, на вечнае чаканне і няпэўныя карысці.

А калі ўжо зусім не можаш вытрымаць без яго, дык і так варта было б прымяніць іншую тактыку. Не варта было яго адразу туліць да сябе. Трэба было палажыць блуднага мужа дзесьці пры печы, няхай бы ён сам там падаграваў свой агеньчык, які з часам можа б і разгарэўся. І тады толькі можна было б прыняць яго, ды і то, паставіўшы акрэсленыя варункі. А ты адразу пабегла да лекара, каб забяспечыць цябе антыканцэпцыйнымі сродкамі.

Думаю, аднак, што і на гэты раз не затрымаецца ён у вас надта доўга. Такі ўжо характар!

**Сэрцайка**




### БЛІНЧЫКІ З ЖОЎТЫМ СЫРАМ

На 20 дэкаў мукі ўзяць 3 яйкі, паўтары шклянкі малака, 1 лыжку крухмалу, 5 лыжак алею, 25—30 дэкаў жоўтага сыру, 1 лыжку масла, соль, крыху цукру.

Яйкі памыць, выліваць па чарзе ў місачку, муку прасеяць, усыпаць у каменны ці фарфоравы збанок, зрабіць у ёй ямку, уліць яйкі, дадаць соль, крыху цукру, малако і алей. Дакладна збіць венічкам або міксерам. Патэльню крыху змазаць алеем, разагрэць, тады ўліваць порцыі цеста, разводзіць яго роўна па патэльні і смажыць з двух бакоў. Сыр нарэзаць прамавугольнымі кавалачкамі, класці яго на блінчыкі і загортваць рулетам. Рулеты скласці ў вогнетрывалы посуд, спырснуць маслам і ўставіць у нагрэтую духоўку. Запячы. Падаваць з нейкім соусам ці салатай. Патэльню змазваем толькі першы раз, перад тым, як уліем цеста на першы блінчык.

### БЛІНЧЫКІ, ЗАПЯКАНЫЯ З ЯБЛЫКАМІ

На 20 дэкаў мукі трэба ўзяць 3 яйкі, 1 шклянку малака, паўшклянкі вады, 1 лыжку цукру, 1/4 лыжкі солі, 4 лыжкі алею, 1 кг яблыкаў, 15—20 дэкаў цукру, 3 лыжкі цертай булкі, ванільны цукар, лыжку масла і яшчэ паўлыжкі масла для формачкі.

Муку прасеяць, дадаць малако, яйкі, ваду, лыжку цукру, соль і алей і збіць усё венічкам або міксерам. З падрыхтаванага цеста зрабіць тонкія блінчыкі, змазаўшы патэльню алеем перад тым, як наліем цеста на першы блінчык. Наступныя смажым без тлушчу. Абабраныя яблыкі нарэзаць скрылёчкамі, выняўшы з іх сярэдзіну. Каструльку дыяметрам велічыні блінчыкаў змазаць маслам (паўлыжкі). Класці па чарзе блінчыкі, перакладаючы іх пластамі яблыкаў. Кожны пласт яблыкаў пасыпаць ванільным цукрам, цукрам і цертай булкай. Апошні пласт трэба спырснуць растопленым маслам (першы і апошні пласт павінен складацца з блінчыкаў). Уставіць у нагрэтую духоўку. Запячы. Вылажыць блінчыкі на вялікую талерку. Падаючы, рэзаць як торт. Падаць да стравы смятану або ванільны соус.

**Гаспадыня**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Вялікі ўжо вырас Славік і вельмі шмат ведаў. Ведаў ён, як чайнік кіпіць, дзе хлеб расце, чаму ноччу цёмна. Умеў Славік адрозніць варону ад голуба, умеў збіраць ягады і чаравікі зашнуроўваць. Добрым хлапчуком рос Славік.

Ведаў Славік, што цукеркі смачнейшыя за кашу, што марожанае лепшае ад капусты, што салодкага крэму можна з'есці больш, чым хлеба. Многае ведаў... Адно толькі было яму незразумела — у чым сіла? Чаму яго сябры спрытнейшыя? Чаму яны хутчэй бегаюць і вышэй скачуць, далей ходзяць і даўжэй не морацца? Як яны могуць рабіць тое, чаго Славік не ўмее? Яму ж таксама пяць гадоў.

Бледны рос Славік, слабенькі, ручкі і ножкі тоненькія. Шыя як запалка. Бабуля з мамай казалі, што гэта ўсё ў Славіка ад салодкага. Ад таго, што капусты ды бульбы не есць, а цукар, цукеркі, варэнне — толькі давай. Увесь дзень еў бы.

Але ж цукеркі смачныя. Нехта ж павінен ведаць, чаму гэта так. А хто скажа, апрача дзядулі? Дзядуля ўсё ведае, усё ўмее.

— Калі ласка, просіць Славік дзядулю, — скажы, чаму я капусту, бульбу ды чорны хлеб есці не магу? Я і без мамы разумею, што на адных цукерках здароўя не нажывеш. Але я люблю іх, дзядулька, вельмі люблю. Ці ж я ў гэтым вінаваты?

— А я і не вінавачу цябе, унучак, — гаворыць дзядуля. — Я таксама маленькім быў і па сабе ведаю, хто вінаваты.

— А хто, дзядуля?

— Язык ва ўсім вінаваты. Языку ўся справа.

— Які язык, дзядуля?

— Мой, вось гэты, — сказаў дзядуля. — Любіў ён у мяне салодкае. Ды яшчэ гарэзнік быў. Усё хацеў рабіць, як яму трэба. Паставіць мне маці капусту, а ён мёду патрабуе. Прынясе маці бульбы, а ён: „Не хачу, пернікаў давай!" Камандуе мною. Распараджаецца. Загадвае, што яму па смаку, а што шкодзіць. А я, дурненькі, падаюся яму, слухаюся. Што скажа, тое і раблю. І да таго мяне мой язык давёў, што я ледзь ногі цягаць пачаў у сем гадоў. Нават маленькія дзеці навыперадкі пачаліззаду пакідаць. Ката падняць не мог...

— Ну і што ты, дзядуля, і што ж ты?

— Справіўся. Нялёгка было, але справіўся. Не даў языку сабою камандаваць, і ўсё. Ён цукру просіць, а я яму хлеба з соллю даю. Ён цукеркаў патрабуе, а я яго бульбаю частую. Ён па варэнне мяне пасылае, а я яго — капустай. Тыдня не мінула, як зразумеў язык, хто тут важнейшы, хто маімі жаданнямі кіруе. Пагадзіўся, гарэзнік. Замоўк. Перастаў крычаць: „Мама, дай цукру". Я яго, гультая, і цяпер у строгасці трымаю. Ад гэтага, бачыш, якія ў мяне рукі? А ногі сто кіламетраў прайсці могуць. І шчокі ружовыя.

Нічога не сказаў Славік, толькі цвёрда вырашыў падпарадкаваць сабе свой непаслухмяны язык і стаць такім жа дужым, як дзядуля.

Сапраўдны сябар быў у Славіка — дзядуля. З такім не згінеш.

**Яўген Пармяк**

## НЯДОБРЫ ЯЗЫК

---

**Уладзімір Мацвеенка**

## Загадкі Зайкі-загадайкі

11
Я ў пярэстым сарафане.
Залюбуецца — хто гляне.
Пра мяне складаюць песні...
Я і ў парку, я і ў лесе.

12
У стаўку купаўся,
Ды сухім застаўся.
І пайшоў, гарласты,
У чырвоных ластах.

13
Кішэняў не мае,
А сонца хавае,
Страху не знае —
Ад ветру ўцякае,
Хоць і сляпая —
Слязу праlівае.

14
Дождж пачне капаць —
Кветка тая расцвітае.
Сонца толькі з неба гляне —
Кветка мігам і завяне.

15
Каля ціхае крыніцы
Збудаваны дом з ігліцы.
Можа, вам знаёмы ён?
Жыхароў у ім мільён.
Тут шчыруюць усе чыста —
Вось чаму навокал чыста.

* * *

Адказы знойдзеш у наступным нумары.

Адказы з нумара 47: 5. Мароз, ледакол. 6. Снег. 7. Лядзяш. 8. Пралескі. 9. Барана. 10. Мядзведзь.



Вучні чацвертага класа са школы ў Махнатым. Фота Я. Чэрнякевіч.



## Пішуць школьнікі

### АДПАЧЫНАК У ГАРОДНІ

**Нядаўна „Зорка" атрымала тоўсты канверт з Гданьска. У ім былі пісьмы дзяцей, якія адпачывалі сёлета ў піянерскім лагеры на Беларусі. Усе пісьмы аб адным лагеры, але якія ж розныя ўражанні! У кожнага нешта сваё, што яму найбольш падабалася, свае перажыванні. Таму друкуем усе пісьмы, хоць толькі ў фрагментах.**

* * *

*Тры дні я была сёлета ў Гародні на Беларусі. Гародня мне вельмі спадабалася. Наш лагер „Лясная казка" знаходзіўся ў лесе. Штодня была фіззарадка. Два разы ў тыдзень — дыскатэкі, на якіх можна было выгуляцца даволі. Мы хадзілі на басейн і вучыліся плаваць. Цікавыя былі спартыўныя гульні і конкурсы. Найпрыямней успамінаю конкурсы „Міс Лясная казка", у якім мая сяброўка Эля Мацкевіч заняла першае месца, а таксама конкурс „Містэр Лясная казка", у якім другое месца заняў мой брат Тамаш. У Гародні я бліжэй пазнаёмілася з сябрамі, з якімі дасюль мы сустракаліся на беларускіх конкурсах. Я доўга буду ўспамінаць гэтыя канікулы.*

**Лідка Чурак**

* * *

*Сёлета летнія канікулы я правяла ў айчыне маіх продкаў — на Беларусі. Над Нёманам, у Гародні. У лагеры было вельмі весела, сумаваць не было калі. З прыемнасцю ўспамінаю рэйд на параходзе па Нёмане, калі спявалі беларускія песні. Наведвалі розныя гістарычныя мясціны. Я пабачыла шмат прыгожых куточкаў Беларусі, пазнала цікавых прадстаўнікоў беларускай культуры. Падабалася сустрэча з пісьменніцай Данутай Бічэль-Загнетавай.*

*Мару праз год сустрэцца зноў са сваімі новымі сябрамі.*

**Кацярына Мацкевіч**

* * *

*У лагеры „Лясная казка" мне вельмі весела і згодна жылося з сяброўкамі з Дашоў. На два тыдні ў наш лагер прыязджалі дзяўчаткі з Арменіі. Яны вельмі добра гралі ў валейбол. Наведаў нас таксама калектыў „Дударыкі" з Гародні. Былі вогнішчы, ля якіх мы танцавалі і спявалі, а адзін раз наватпяклі хлеб. Вельмі сімпатычныя былі сябры з Гародні, якія жылі ў кэмпінговых хатках насупраць нас. Штодзень раніцай была фіззарадка, якая на пачатку нам выдавалася смешнай.*

*Вельмі спадабалася мне Гародня, яе зелень. Шмат уражанняў пакінула экскурсія па Нёмане і ў Жыровічы.*

**Кармэн Буцкая**

* * *

*У лагеры я жыла з дзяўчатамі з Бельска. Яны былі вельмі сімпатычныя. Мы наведалі хату-музей беларускага паэта Максіма Багдановіча, пабачылі помнік беларускай паэтэсы Алаізы Пашкевіч — Цёткі. Былі ў цэрквах і касцёлах, ездзілі ў Жыровічы па святую ваду. Га-*

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Сяргей Папар

### ПЕЎНІК НА ПЛОЦЕ

Пеўніку
Сёння ўжо
Нас не будзіць:
Кожны цяпер
На гадзіннік глядзіць.

Пеця не ў крыўдзе.
Зярнятка дзяўбе:
Радыя куры
Ягонай дзяльбе.

Толькі ў бабулі
Пытанне да Пеці:
— Век свой будзіў
Ты мяне на дасвецці.
Ты ж свой будзільнік
Забыў на шастку.
Эх, Кукарэка!
Эх, недарэка...

Я ж не хачу яшчэ
Золак праспаць:
Дзе б электронны
Гадзіннік дастаць?

Кожны павінен
Свой час берагчы.
Ветламу дню
Я хачу памагчы.

Пеця, ты помні:
Хто рана ўстае —
Добраму сэрцу
Святла дадае!
Новы будзільнік
Не дасць табе спаць:
Будзеш, як мілы, у мяне
„Кукаваць".
Вось калі ў школу
Не спозніцца ўнук!

Певень самотны
Усеўся на сук.
Болей яму
Не спяваць на шастку?
Што ж, ён забыў свае
„Ку-ка-рэ-ку".
Трэба у школу —
У „нулёўку" ісці:
Родную песню
Нанова знайсці.

. . . . . . . . .

Бабка на стрэлкі
Цяпер не глядзіць,
Пеця
Умее
Світанні будзіць!

Думае бабка
Пра школу, пра песні.
Многа ў душы яна,
Родненькіх, песціць.

Столькі світальных
І столькі вячэрніх;
Песень сыноўніх
І песень дачэрніх.

Столькі для ўнукаў
У бабкі багацця!
Час беражэцца
У бабчынай хаце.

Пойдзем, запішам
На ласкавай ноце!
Там жывуць песні,
Дзе пеўнік на плоце.

## малюнкі школьнікаў




Ілюстрацыя да верша Ніла Гілевіча „Восень" вучаніцы шостага класа Касі Коршак з Храбалоў.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

— ✲ —

БССР, 231352, Гродзенская вобл., Іўеўскі раён, п/а Трабы, в. Сенькеняты, 20. Кузьміч Наташы (12 гадоў).

— ✲ —

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, в. Краснае, вул. 17 Верасня, 42. Барысюк Іне (7 клас).

— ✲ —

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Келдыша 3а, кв. 6. Мойсеенко Наташе (3 клас).

— ✲ —

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Келдыша, 3а, кв. 2. Бузмаковой Олесе (5 клас).

— ✲ —

СССР, 346527, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Текстильная, 43-73. Чернушкину Сергею (5 клас).

— ✲ —

БССР, 220036, г. Мінск, вул. Купрыянава, 9, кв. 72. Света Кузняцова (7 клас).

— ✲ —

БССР, 220036, г. Мінск, вул. Волаха, 27, кв. 14. Кірыла Жданові (6 клас).

— ✲ —

БССР, 220036, г. Мінск, вул. Волаха, 27, кв. 24. Паўлік Званскі (6 клас).

## ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

### СТАРОНКІ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

### МЯДОВЫ БУНТ (3)

**Працяг з папярэдняга нумара**

„Сяляне, — скардзілася Ганна Сапега ў Слонімскі гарадскі суд у кастрычніку 1701 года, — без прычыны ўсялякае і крыўды ім не хочуць, пачынаючы ўжо з 1700 года, ні працаваць, ні якой-небудзь іншай павіннасці несці".

Асабліва вострая спрэчка разгарнулася вакол мядовай даніны. Тутэйшыя сяляне з даўніх часоў выплачвалі ў казну, а пасля перадачы староства ў дзяржанне — Сапегам за карыстанне бортнымі дрэвамі. З прысядзібных пчальнікоў наогул ніякі падатак ніколі не спаганяўся. Ганна Сапега патрабавала, каб ёйападаткавалі палову ўсяго мёду — і з лясных борцяў, і з прыхатніх калод. Сяляне ўспрынялі гэта як самаўпраўства, нахабны замах на іх спрадвечныя правы, якія, дарэчы, пацвярджаліся 39 артыкулам Уставы на валокі 1557 года, граматай Яна III і лістам Давойны, напісаным, як згадваюць судовыя дакументы, беларускаю моваю. Апошняя папера беражліва захоўвалася жыхарамі Любішэцкага войтаўства.

Калі намеснік Ганны Сапегі паспрабаваў са сваімі людзьмі сілай узяць „палавічны мёд", ён сустрэў рашучы адпор — узброеныя цапамі, косамі і віламі сяляне выгналі яго разам з гайдукамі з вёскі. Такая сустрэча адбылася і ў астатніх вёсках.

У першай палове XVII стагоддзя пчалярства было шырока развіта і мела важнае народнагаспадарчае значэнне. Так, напрыклад, Члухаўскае лясніцтва Аўгустоўскай пушчы нават у 1773 годзе атрымала ад бортнікаў 507 талераў падатку, а за продаж драўніны, асноўнай сваёй прадукцыі, — усяго 14 талераў і 25 грошай. Мёд, воск і розныя напоі, асабліва славуты „ліпец", заўсёды мелі вялікі попыт на ўнутраным і знешнім рынках. Для сялян з іх натуральнай гаспадаркай, пазбаўленай, па сутнасці, іншых таварных рэсурсаў, пчалярства было той прыбытковай галіной гаспадаркі, што прыносіла надзейную жывую капейку, неабходную для сплаты хоць бы таго самага чыншу. Зразумела, чаму сяляне не маглі і не хацелі ўступіць дамаганням Сапяжанкі.

Разгарэлася сапраўдная вайна. Прадстаўнікі дваровай адміністрацыі маглі наведваць вёскі толькі пад аховай добра ўзброеных атрадаў. Каб зламаць упартасць сялян, пасеяць сярод іх страх і разлад, яны ўрываліся ў вёскі і займаліся рабаўніцтвам. Пад выглядам спагнання ўяўных нядоімак забіралі скаціну і вуллі. Усяляк тэрарызавалі насельніцтва. Жорсткасць Сапегавых наймітаў не ведала меры. Мала таго, што катавалі дарослых — сілком кармілі сенам і напампоўвалі людзей вадой, „з чаго маса народу папухла і памерла", але здзекаваліся з жанчын і дзяцей. Іх цкавалі сабакамі, заганялі ў двары і насыпалі за пазухі жывых пчол.

**Працяг будзе**

**(З кнігі Ст. Цярохіна „Мядовы бунт")**

### АДПАЧЫНАК У ГАРОДНІ

**(Працяг са стар. 9)**

*родня — гэта вельмі стары і прыгожы горад.*

**Агата Глагоўская**

* ✲ *

*Летнія канікулы я правёў у Гародні. З сябрамі мы наведалі горад і наваколле, пабывалі ў музеях і пабачылі помнікі беларускай культуры. У вольны час мы хадзілі на кінафільмы ў святліцу. Адбываліся спартыўныя спаборніцтвы і розныя конкурсы. На дыскатэках і на вогнішчах я пазнаёміўся з новымі сябрамі з Беласточчыны і Беларусі.*

**Тамаш Чурак**

* ✲ *

*Наш лагер „Лясная казка" знаходзіўся над ракою Нёман. У дзве гадзіны ночы мы хадзілі спатыкаць сонца. Сядзелі ля вогнішча, спявалі песні, танцавалі. У нас былі вельмі цікавыя конкурсы для дзяўчатак і для хлопцаў.*

*У лагеры ў Гародні было сёлета 70 беларускіх дзяцей з Польшчы. Нашым апекуном быў Янка Мордань. На Беларусі я была ўпершыню, і таму мне было вельмі цікава і добра. Я вельмі хацела б у наступным годзе зноў паехаць на Беларусь, пазнаць месцы, у якіх я яшчэ не была, і знайсці новых сяброў, такіх, якіх я пазнала сёлета.*

**Эля Мацкевіч**

## -А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А-



Знайдзі на гэтых малюнках 10 аднолькавых прадметаў.



Адрас рэдакцыі: 15-959 Białystok ul. Suraska 1. „Зорка".

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) адчуваеш яго языкам, 3) сэнс, сутнасць, 5) вольха інакай, 7) затапіла ўсю зямлю, 10) у бары не адна, 12) можа быць на галаве і на ножцы, 13) колькасць экземпляраў выдання, 14) фізкультура, 16) паўднёвае хвойнае дрэва, 18) пачатак па-спартыўнаму, 19) гістарычнае збудаванне, 21) зярняты да сяўбы, 22) над хамутом у аглоблях, 23) цела без душы.

**Уніз:** 1) паўкруглы назублены нож, 2) гнілым не падапрэшся, 3) мужчынскае імя, 4) на паверхні дрэва, 6) каршун іначай, 8) каштоўны камень фіялетавага колеру, 9) жыве на кошт іншага, 10) нечаканы падарунак, 11) брак, 15) дзіця, 16) верхняя частка дрэва, 17) верш з чатырнаццаці радкоў, 18) астаўляеш за сабой, 20) рыба як імя.

„ядань"

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з № 42. Упоперак:** выбух, голас, морда, лухта, наказ, рампа, смага, Каран, пах, сумка, опера, сад, закон, парта, асоба, мароз, ружжо, вядро, крама, гонта. **Уніз:** волас, бухта, хмара, ганак, лекар, сезон, румба, месца, гумно, апека, амант, пас, ход, акорд, замак, карга, назва, парог, ражон, абора.

Кніжную ўзнагароду выйграў Рыгор Пацэвіч з Беластока.

# НІЎКА

*— Добры вечар! Вітаю вас у радзільнай клініцы. Гэта першы з многіх сходаў, на якіх вы будзеце прысутнічаць на працягу найбліжэйшых сямідзесяці ці васьмідзесяці гадоў.*

## ПАЎТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

720

Поўная бяда пачынаецца тады, калі ад жыцця чакаем толькі смерці.

721

Не рагачы з таго, што сам сказаў, бо слухачам будзе хацецца над табою плакаць.

722

Калі імперыяльныя афіцэры пачынаюць зайздросціць салдатам, а салдаты перастаюць зайздросціць афіцэрам, пачынаецца ўпадак імперыі.

723

Калі не верыш усім людзям, дык не верыш і сабе.

**Алесь Барскі**

## УЧАРАШНІ ЦЯГНІК

У малую мясцовасць кожны дзень цягнік прыязджаў з вялікім спазненнем. Аднойчы прыехаў на некалькі мінут раней. Мясцовы аптэкар звяртаецца да машыніста:

— Брава! Упершыню гэты пракляты цягнік прыйшоў без спазнення. Вазьміце цыгару! Вы на яе поўнасцю заслужылі.

— Схавайце сваю цыгару. Мой цягнік не прыехаў раней Гэта той учарашні.

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132-3.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787, nr rachunku walutowego w rublach 5021-24325-151-6201.

**Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | | |
|---|---|---|
| 3520. | Пётр Адзіевіч (Орля) | — 2000 зл. |
| 3521. | Ян Тафілюк (Мілейчыцы) | — 3000 зл. |
| 3522. | Эдуард Лапінскі (Орля) | — 2000 зл. |
| 3523. | Міхал Кубаеўскі (Орля) | — 3000 зл. |
| 3524. | Ірына Парфянюк (Гайнаўка) | — 12000 зл. |
| 3525. | Віталій Луба (Беласток) | — 24000 зл. |
| 3526. | Юрка Грыц (Старое Ляўкова) | — 25100 зл. |
| 3527. | Члены гуртка БГКТ у Белавежы | — 20000 зл. |
| 3528. | Юры Зюзя (Варшава) | — 50000 зл. |
| 3529. | Міхал Селеванюк (Грыфіна) | — 10000 зл. |
| 3530. | Вучні класаў 0—III Падставовай школы № 3 у Бельску-Падляшскім | — 162000 зл. |
| 3531. | Аляксандр Трафімюк (Старое Беразова) | — 12000 зл. |
| 3532. | Ілья Агіевіч (Орля) | — 50000 зл. |
| 3533. | Міхал Наўмовіч (Францыя) | — 50 ам. дол. |
| 3534. | Каржаневіч (Англія) | — 33 ам. дол. |
| 3535. | Кааператыўны банк у Гайнаўцы | — 100000 зл. |
| 3536. | Аляксандр Круталь (Гайнаўка) | — 5000 зл. |
| 3537. | Славамір Іванюк (Гайнаўка) | — 7000 зл. |
| 3538. | Аляксандр Баршчэўскі (Варшава) | — 100000 зл. |

**Дзякуем.**

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej. 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.**

## НАВУШНІКІ

— Ведаеш, — гаворыць шатландзец свайму сябру, — ад апошняга няшчасця ўжо не нашу навушнікі...

— А што за няшчасце здарылася?

— Мой сусед прасіў мяне на вячэру, а я гэтага не дачуў.

## НЕ ЛЯКАРСТВА

У нью-йоркскім рэстаране ў шатландскім раёне вісіць надпіс: „Нашы сталовыя прыборы не з'яўляюцца лякарствам, каб іх прымяняць пасля абеда".

## ДАРАГАВІЗНА

— Спадар суддзя, гэта несправядліва. У мінулы раз, калі я абазваў свайго суседа свіннёю, вы мяне аштрафавалі на 100 фунтаў, а цяпер — на 200.

— Спачуваю, але свініна за гэты час даволі падаражэла.

* * *

„Першы цень на сямейнае сужыццё падае тады, калі муж, вяртаючыся дадому, гаворыць „Добры вечар", а жонка адказвае яму „Добры дзень".


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар). Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"

ul. Suraska 1

15-950 Białystok, skr. poczt. 149

tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1991 r. upływa 20 listopada 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty na I kwartał 1991 r. wynosi 10.400 zł + 6.500 zł za doręczenie. W 1991 r. cena 1 egz. wynosić będzie 800 zł.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej: — grudzień — 6.500 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Zam. 1638/90